# ПІСЬМЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

ДАЎНО ХАЧУ СКАЗАЦЬ

## Чаму я зайздрошчу замежным студэнтам

Як кожная маці, з цікавасцю назіраю, як выхоўваюцца мае дзеці. Адна ўжо студэнтка-першакурсніца, другая — школьніца. Захацелася падзяліцца некаторымі думкамі пра добра знаёмае і схаванае ад нас адначасова. Гэта ўлада, адносіны да яе атрыбутаў, сімвалаў. Прасцей кажучы: дзеці, падлеткі і паняцце дзяржаўнасці.

Цікавіць мяне гэта праблема яшчэ і таму, што не магу ў нашых магазінах купіць Дэкларацыю ААН "Правы дзіцяці". А хочацца ж і сябе, і сваіх дзяцей суадносіць з агульначалавечымі працэсамі, што адбываюцца ў розных краінах. Не ведаю, як вы, паважаны чытач, а я часам заўважаю да крыўды абсалютную недасведчанасць нашых падлеткаў у сучаснай палітыцы ў краіне. Даходзіць да смешнага. Часам студэнт блытае нават прэм'ер-міністра і прэзідэнта. І яшчэ заўважаю, што, акрамя абыякавых адносін да праграм урада, да праграм прэзідэнта, яго ных указаў, і школьнік, і студэнт часта проста заведама іранічна і нават цынічна ставяцца да высокай улады, да кіраўніцтва краіны, ды, урэшце, і да нас, педагогаў.

Прызнаюся, да сённяшніх дзён я не надта цікавілася сутнасцю іх апатыі, але ўсё часцей думаю: адкуль гэтая апатыя паходзіць, дзе яе карані, чаму ніхто не даводзіць да падлетка, юнака думку аб павазе да герба, сцяга, да партрэта свайго прэзідэнта? Мажліва, выкладчыкі, настаўнікі зноў чакаюць рэкамендацый зверху, альбо страшацца адраджэння чарговага культу, якім так нас палохаюць газеты?..

Але згадзіцеся: жыць у вакууме, застаючыся напаўграмадзянінам — сумная доля, бо з новым пакаленнем, якое не жадае разумець, што ёсць сапраўдная дэмакратыя, што ёсць пачуццё ўласнай годнасці беларуса, не збудаваць моцнай прававой дзяржавы. Успамінаю сябе школьніцай, студэнткай... Не, не ганарыліся мы сваім сцягам (у тым ліку і беларускім), не ведалі сімвалаў, герба, не вучыліся спяваць да канца гімн краіны.

Сустракаюся з замежнымі студэнтамі і... зайздрошчу ім. У адрозненне ад нашых, як яны паважна ставяцца да свайго караля, каралевы, прэзідэнта! Ведаюць гісторыю герба, сцяга сваёй краіны. Нашы дзеці, такое маё адчуванне, па-ранейшаму выхоўваюцца манкуртамі, для якіх дастаткова "родословной Чебурашки". Вось таму і раюся з вамі... Калі мы жывем у суверэннай, прававой дзяржаве, нехта ж павінен турбавацца пра азы палітычнай, духоўнай будучыні грамадзяніна! Заўважаю, што і маёй школьніцы не прывіваюць павагі, любові да герба, сцяга Беларусі. Ад дачкі я ніколі не чула просьбы: "Купі, мама, маленькі наш сцяжок". І ў той жа час не было практычна ніводнага фільма, дзе не свяціўся б амерыканскі флаг — ён віднеецца на ўсіх каналах тэлевізара. Ніколі не чула я ад дзяцей: "А чым займаецца наш прэзідэнт? За што ён адказвае?" Відаць, няма цікавасці ў іх, як і ў настаўнікаў да першага з грамадзян, носьбіта нашага суверэнітэту. А гэта не проста цікаўнасць, гэта палітыка.

Лічу, што галоўныя функцыі кіраўніка дзяржавы дзеці абавязаны ведаць у сярэдніх класах. І не варта страшыцца нараджэння культу. Ёсць у свеце прыклады, калі дзяржавы выпрацоўвалі рытуалы адносін улады і дзіцяці. І добра, калі дзеці пішуць свайму прэзідэнту. Толькі не трэба з гэтага рабіць узор для малявання. І не ў лістах "соль", а ў тым, што яны адчуваюць кіраўніка дзяржавы не абстрактным чалавекам, а сваім прэзідэнтам, падкрэсліваю — сваім, якога абралі дэмакратычным шляхам. Не варта здзіўляцца, што нашы дзеці вырастаюць не толькі абыякавымі да ўсяго, але скептычна адносяцца і да мінуўшчыны, якую не ведаюць і не хочуць разумець.

Не толькі голад павінен абуджаць людзей да актыўнага ўдзелу ў лёсе сваёй краіны. Балець мусіць сэрца за народ, за краіну. Духоўнасць без любові да свайго, да гісторыі, без павагі да выбару народа — палова, чвэрць духоўнасці. Вось чаму я вырашыла вынесці на ваш суд, чытач, свае трохі сумбурныя назіранні, запрашаючы да размовы.

Наша нацыянальная ідэя, даступная вучням, нашымі вучонымі не распрацавана, але ж з нечага пачынаць трэба, бо гэтае пачуццё дзяржаўнасці інакш як пачуццём і не назавеш. А кожнае пачуццё, як вядома, патрабуе ўвагі і мусіць быць, як кажуць, запатрабавана.

Таццяна СІЛАКОВА,
метадыст Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей.

РОСПАЧ

## З нас смяюцца...

Дапускаю, што, мажліва, знойдуцца людзі, якія скажуць ці падумаюць, што тэхнічка і голасу не мае, не павінна гаварыць і слова ў абарону сваёй прафесійнай годнасці. Маўляў, работа "не тая".

Прабачце, хаця і тэхнічка, але маю гонар. І не магу пагадзіцца з тым, як абыходзяцца са мною і тысячамі маіх калег.

Што тычыцца работы, то яе ў нас хапае, бо школа — не кантора, у якой прыбіраюць адзін раз пасля рабочага дня. Мы мыем падлогу па два разы на дзень. Дзеці ж ёсць дзеці.

А як дзяржава аплачвае нашу працу? У лістападзе нам устанавілі аклад — 36 тысяч. Гэта кілаграм не самай лепшай каўбасы. Пенсіянеры зараз атрымоўваюць па 70 тысяч і смяюцца з нас, бо ў нас жа яшчэ і дзеці, якіх карміць трэба. А чым іх карміць? У мяне ні кабанчыка, ні кароўкі, усё трэба купіць.

Праца наша губляе ўсялякі сэнс, яе аплата не нясе элементарнай умовы, як кажуць медыкі, фізіялагічнага выжывання.

Хто абароніць нас?

Алена РАГОЎСКАЯ,
прыбіральшчыца школы №3 г/п Акцябрскі Гомельскай вобласці.

ПАДТРЫМЛІВАЮ

## Настаўнік — не толькі ў школе

Добры дзень, паважаная рэдакцыя "Настаўніцкай газеты"! З радасцю чытаю Вашу газету, але лічу, што педагогіка павінна быць рознай. Напрыклад, да школы вучня альбо вучаніцу даглядаюць бацька і маці, дзядуля і бабуля, якія і выступаюць у ролі настаўнікаў.

У школе настаўнікі і настаўніцы працягваюць гэту справу. Гэта школьная педагогіка. У розных фірмах, калгасах і саўгасах пачынаецца больш складаная працоўная педагогіка.

Калі вучань непаслухмяны, то яго выхоўвае міліцэйская педагогіка. Потым у арміі ён сутыкаецца з армейскай педагогікай. А потым і сам, уступаючы ў шлюб з каханай дзяўчынай, уступае ў кантакт з грамадствам таксама як настаўнік.

Таму я падтрымліваю ідэю аб больш дэталёвым разглядзе вучня ў новым аспекце педагогікі. Я за тое, каб усе разумелі, што грамадзяніна краіны Беларусь выхоўвае народ, настаўніцтва, міліцыя, армія, працоўны калектыў. І раней было так. Таму паняцце "настаўнік" — гэта не толькі настаўнік у школе.

В.ШОЛКАВІЧ.
Жыткавіцкі раён, в.Лудзяневічы.

Рыгор Іванавіч, барометр упаў...

$P = 10^5$ Па

Будзе бура, Піліповіч!

Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

НЕ МАГУ ПАГАДЗІЦЦА

## СУМНАЕ ПАДСУМАВАННЕ

У верасні ў друку апублікаваны "Высновы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы" ("Настаўніцкая газета" за 17.09.1994 г.).

Якія ж вынікі яе "працяглай і нялёгкай працы"? Перш чым паведаміць пра іх, камісія вырашыла пазнаёміць грамадскасць з тымі праблемамі, якія павінны развязаць спецыялісты-мовазнаўцы: "Існуе неабходнасць у развіцці слоўніка літаратурнай мовы... у даследаванні і распрацоўцы яе граматычнага ладу... у выпрацоўцы арфаэпічных нормаў... у пераглядзе правапісу..."

Можна было б доўга не спыняцца на гэтым не абавязковым для масавага чытача пераліку навуковых задач. Але вельмі насцярожвае сцвярджэнне: "Існуе неабходнасць у выпрацоўцы арфаэпічных нормаў". Тут ужо штосьці новае. Як вядома, нормы і правілы літаратурнага вымаўлення даволі грунтоўна распрацаваны (даследаванні М. Бірылы, Ф. Янкоўскага, А. Падлужнага), яны знайшлі адлюстраванне ў "Слоўніку беларускай мовы" (1987) пад рэдакцыяй акадэміка М. Бірылы. Названы слоўнік з'яўляецца даведнікам па арфаграфіі, арфаэпіі, акцэнтуацыі і словазмяненні. У ім вырашаецца задача паказаць узорнае літаратурнае вымаўленне па магчымасці найбольшай колькасці слоў. У прыватнасці, абазначана асіміляцыйная мяккасць зычных: *асьвістаць, зьява, асіньнік, касьсё, хлусьня, прысьпічыць, прызьбе.*

Што ж разумець тады пад выразам "выпрацоўка арфаэпічных нормаў"? Адыход ад прынятых і ўсталяваных у маўленчай практыцы правілаў? Падумаць так ёсць падставы. Не змаглі ж члены камісіі дасягнуць "адзінства... у адносінах ужывання мяккага знака на пісьме..." Значыць, не ўсе ў камісіі заклапочаны тым, каб захаваць адметную рысу беларускай фанетыкі — асіміляцыйную мяккасць зычных гукаў.

Існуе рэальная пагроза перагляду нормаў літаратурнай мовы. У газеце "Навіны Акадэміі навук Беларусі" (9.09.1994) паведамляецца пра падрыхтоўку "трэцяй новай "Граматыкі беларускай мовы". Як адзначае рэдактар працы А. Падлужны, яна (новая граматыка) "не апісальнага тыпу ўсіх магчымых граматычных нормаў і правіл, а найбольш распаўсюджаных і зручных для ўжывання". Такія крытэрыі вызначэння (выбару?) нормы выклікаюць заўвагі. Часам большую пашыранасць мае нарматыўны варыянт з тымі ці іншымі парушэннямі законаў беларускай мовы. Як прыклад, згадаем словы *светасігнал, язычаства, абслугоўваючы* (прыметнік), што ўжываліся не адно дзесяцігоддзе ў літаратурнай мове, а потым выцесніліся словамі *святлосігнал, язычніцтва, абслуговы, абслугоўчы.* А што значыць "зручны для ўжывання?" Тым, каму беларуская мова не родная, нязвыклая, зручнейшымі, відаць, будуць формы, агульныя з рускай мовай, напрыклад, формы назоўнікаў роднага склону множнага ліку з нулявым канчаткам: пяць партызан, сучасных норм, новых кафедр, істотных рыс.

Звернемся, аднак, да непасрэднага аб'екта пільнай увагі камісіі — праблемы ўдасканалення беларускага правапісу. Камісія прызнае, што "беларускі правапіс вельмі ўжо недасканалы". Сапраўды, у ім нямала недарэчнага. Напрыклад, трэба пісаць: *дзень—дзянёк, дзеці—дзяціны, але нельга: дзесяць—дзясяты, сем—сямнаццаць.*

Як быць у такой сітуацыі? Напэўна ж трэба імкнуцца дасканаліць правілы арфаграфіі. Але камісія, спаслаўшыся на грамадскую думку, палічыла, што ў цяперашніх абставінах гэтае "мовазнаўчае мерапрыемства" немэтазгоднае. Праўда, члены камісіі адчуваюць сябе не зусім камфортна, робячы такую "выснову", і спрабуюць суцешыць, супакоіць сябе, а разам і грамадскасць: "...наогул, мова не належыць да тых катэгорый, дзе трэба праяўляць паспешлівасць, паддавацца пачуццю боязі — хаця б не спазніцца". Гэта ж вам не пажар, не хвароба!

І ўсё ж камісія ўбачыла небяспеку: "Найбольшая сёння наша бяда... у тым, што ўвогуле беларускай мове ...пагражае асіміляцыя і паглынанне з боку... мовы нацыянальных зносін", актуальная задача цяпер — "пашырэнне беларускай літаратурнай мовы ў грамадскіх зносінах". Здавалася б, ад гэтай "глабальнай высновы" ўсяго толькі крок да лагічнага вываду: з "пагрозай увогуле" трэба змагацца канкрэтнымі дзеяннямі, у тым ліку ўдасканальваць правапіс.

Дзякуй камісіі, што пакідае хоць надзею: рэформу правапісу можна будзе праводзіць тады, "як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца і ўмацуецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць". Усталюецца і ўмацуецца... Само?!

Камісія "разгледзела стан літаратурнай мовы і яе ўжыванне ў апошнія гады ў пісьмовай і вуснай формах" і выявіла, што нормы і правілы літаратурнай мовы "пачалі масава парушацца". Гэтыя парушэнні, адзначаюць аўтары "Высноваў", — не толькі ад неахайнасці ("па неахайнасці") і праз непісьменнасць ("па непісьменнасці"), "пачалося зусім свядомае і мэтанакіраванае ўкараненне і пашырэнне... іншых нормаў і правілаў".

Цікава, а да якога "разраду" аднесці моўныя хібы, якіх шмат у невялікім тэксце "Высноваў"?

"Не дасягнута было адзінства толькі ў адносінах ужывання мяккага знака на пісьме і, напрыклад, для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных. Гэта галоўная праблема разнабою ў правапісе..."

"Аднак праца Камісіі была сканцэнтравана, як гэта і належыць, над пытаннямі правапісу".

"...становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве ўсё яшчэ досыць кволае".

"...як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы..."

Падкрэсленае мною, спадзяюся, проста моўна-стылёвыя недагляды. Дык пажадаем камісіі, каб яна з большай навуковай дакладнасцю ацэньвала варыянты нормы і адхіленні ад яе ў маўленчай практыцы беларускага народа.

Алесь КАУРУС,
дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, кандыдат філалагічных навук.

## ВОЙКНЕМ, ДЫ БУДЗЕ ПОЗНА

"...Я ўпэўнены, што зараз граматыку мяняць нельга, бо гэта толькі раз' яднае народ. Таму лічу, што цяпер у галіне культуры і асветы трэба ўсяляк пашыраць усё сапраўды беларускае, нацыянальнае. Прапагандаваць і ўкараняць усё лепшае, што ў беларускай культуры ўжо ёсць: творы літаратуры і мастацтва, народныя традыцыі, увогуле — яе вялікасць нацыянальную Спадчыну."

Мікола Ермаловіч.
("Наша слова", №32, 1994 г.)

Вызначуся адразу: я за дзяржаўнасць беларускай мовы, яе хутчэйшае пашырэнне ва ўсіх сферах жыцця, за разумнае ўдасканаленне правапісных нормаў. Адначасова падкрэслю, што моўнае пытанне — балючае пытанне. Яго "балючасць" разумею і як своечасовае, ды не зусім, і яго цяжкасць (як бывае і цяжка хворы чалавек), і як пытанне жыцця для тых, хто па многіх прычынах не валодае, ды і не зможа авалодаць беларускай мовай, бо для іх роднай з'яўляецца руская ці нейкая іншая нацыянальная мова. І вырашаць гэтае найскладанейшае і далікатнейшае пытанне трэба па-дзяржаўнаму і па-чалавечы мудра і абачліва, а не на "ура" будзёнаўскімі кавалерыйскімі набегамі ці тымі сумна вядомымі каксагызаўскімі кампаніямі, аб якіх слушна папярэджваў В.Вячорка на II з'ездзе ТБМ. Прыкра, што аматары лёгкіх перамог назусім забылі аксіёму: у моўнай баталіі, што не сыходзіць са старонак перыядычнага друку, не можа быць ні пераможцаў, ні пераможаных. Так, дзяржаўнасць беларускай мовы не павінна ствараць штучных перашкод для выкарыстання іншых. Але ж зараз пад шум-гуд беларускага аднамоўя і барацьбы з русафобіяй ідзе масавае "перакачванне" ў беларускую лексіку паланізмаў і ўкраінізмаў. І беларусы моўчкі заглынаюць прапанаваную нажыўку.

Чаму? Вынікі такой маўчанкі не забавяць заявіць аб сабе ў бліжэйшыя ж гады: войкнем, ды будзе позна.

У артыкуле "А мо вернемся да Скарыны?" ("Настаўніцкая газета" за 30 верасня 1992 года) мною было выказана сумненне ў мэтазгоднасці рэформы беларускага правапісу, у якой і сёння не бачу патрэбы. Удасканаленню, уніфікацыі правапісу — так, рэформе — не!

Клапачуся, каб, як кажуць, пасля мыцця (рэформы) незнарок разам з памыямі не выкінуць і дзіця (мову). Ды каб усім нам не стала задужа мулка ад таго мяккага знака, калі ў адным слове яго стане ажно чатыры: бесьперсьпектыўнасьць, бязьзьменнасьць і інш. А чаго варты тыя "пляны, глёбусы, клясы, лёгікі, камэдыі, філязофіі, Эўропы, ляманты, "пэрлямэнты" ды ўся "клясычная мова", якой хочуць засмеціць нашу сённяшнюю мову некаторыя аматары-наватары? Ці не настаў час спыніцца ды перастаць рушыць усё былое "до основанья, а затем...". Здаецца, ужо ж зруйнавалі былыя палітычныя структуры, развалілі дашчэнту эканоміку краіны, засталося хіба толькі "прышчапіць" нам тарашкевіцу ці лацінку, каб беларусы перасталі разумець адзін другога. І што далей: наперад, да Карабаха?

Мне незразумелы той вэрхал, які ўсчынілі аматары моўнай даўніны. Грэшным часам, думаецца: ці не падыгрываюць яны нешматлікай беларускай дыяспары, што жыве за межамі Беларусі і "зацыклілася" на лацінках-тарашкевіцах ды не нейкую сотню год адстала ад нашага жыццёвага калаўроту? Дык няўжо з-за некалькіх тысяч далёкіх беларусаў сёння патрэбна перавучваць мільёны сталых жыхароў краіны, якія перажылі і гады фашысцкае навалы, і сталінскія рэпрэсіі, і брэжнеўскі застой, і гарбачоўскую перабудову, з дзяцінства засвоілі напісаныя наркамаўкай выдатныя творы Я.Купалы і Я.Коласа, К.Чорнага і К.Крапівы, І.Мележа і І.Шамякіна, А.Куляшова і П.Броўкі, П.Панчанкі і Я.Брыля, М.Танка і Н.Гілевіча, А.Макаёнка і У.Караткевіча. А хіба ж не яна — прыемная ва ўсіх адносінах дама-спадарыня наркамаўка — пад белы ручкі ўзвяла на самы вільчык Парнаса шаноўнага Васіля Уладзіміравіча Быкава ды абессмяроціла яго?

... Жыву роднай мовай з дзяцінства. Нарадзіўся і вырас на Магілёўшчыне, а жыву і працую на Брэстчыне. І ўсюды чуў яе: і ад сваёй маці, і ад маці Аркадзя Куляшова, і маёй настаўніцы — Кацярыны Фамінічны Ратабыльскай, і ад самога паэта, калі ён прыязджаў да сваёй маці ў нашу сельскую Елавецкую сямігодку, здаралася, гутарыў з намі, дзецьмі. Родная мова была са мною і ў Галенскай школе, што на Пружаншчыне, дзе я пачынаў свой працоўны шлях, і на Паўднёвым Урале, дзе тры гады служыў у арміі, і ў Колкаўскай сямігодцы (на сумна вядомых Мярлінскіх хутарах, дзе пазней на ваенным палігоне прымянялася атамная зброя), куды лёс закінуў мяне пасля дэмабілізацыі, і ў Рамельскай сярэдняй школе на Століншчыне, дзе больш трох дзесяткаў год працую настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Сорак год нясу родную мову дзецям, падрыхтаваў не адзін дзесятак настаўнікаў матулінай мовы. Перакананы: ніякай карэннай ломкі-рэформы сённяшні беларускі правапіс не патрабуе. Рады, што да такое высновы прыйшла і Дзяржаўная камісія па ўдасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы.

Мне было балюча слухаць па радыё і чытаць у газетах (брэсцкая абласная "Народная трыбуна" за 5 лістапада, "Наша слова", №46 г.г.) аб тым, як "штарміла" школы №№17 і 35 абласнога цэнтра. Многія бацькі не пусцілі сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы. Дзеці тут ні пры чым, а бацькі хай бы разважылі, што іх нашчадкі будуць жыць у XXI стагоддзі, калі на Бацькаўшчыне родная мова будзе гаспадыняй ва ўласнай хаце, а не існаваць беднай Папялушкай. І калі б сённяшнія першакласнікі тых школ адчулі сябе праз дзесятак год адшчапенцамі грамадства, то ці раз успомнілі б "клапатлівых" бацькоў нялаcкавым для слыху словам. Добра, што ў тым процістаянні перамог здаровы розум, і дзеткі на ўроках чуюць-такі беларускую мову...

Дык давайце, шаноўнае спадарства, цясней туліць да грудзей, бы тое немаўля, наш найдаражэйшы скарб — матуліну мову, паўсядзённа квеціць ёю свой зрок і слых. Будзьма чуйнымі да запавету слыннага сына Старонкі Роднай — Францішка Багушэвіча: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"

Леанід РАМАНЕНКА,
настаўнік Рамельскай сярэдняй школы Столінскага раёна.

МЕРКАВАННЕ

## ЯК ЗРАБІЎ, ТАК І ЗАРАБІЎ

Паважаная рэдакцыя "Настаўніцкай газеты"!

Дзякуй за публікацыю майго артыкула "З меншай колькасцю, але з большай эфектыўнасцю". Дазвольце яшчэ раз выказаць свае думкі наконт змяненняў у аплаце заработнай платы настаўнікаў. Задумаўся я над гэтым асабліва моцна пасля выступлення Прэзідэнта на сустрэчы перад работнікамі і студэнтамі педагагічнага універсітэта ў Мінску.

Прапановы наступныя: за аснову аплаты працы настаўнікаў возьмем стаўку настаўніка з вышэйшай адукацыяй без стажу на суму "п" рублёў, прыняўшы яе за 100%.

Тады з незакончанай вышэйшай адукацыяй, са стажам работы да 1 года яна складзе 90%, з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, стаж да 1 года — 80%. Далей за кожны прапрацаваны год, да 25 або да 30 гадоў педагагічнай работы, налічваецца дадаткова па 1% за стаж. Пасля 25—30 гадоў гэтыя даплаты больш не павялічваюцца.

Маладыя настаўнікі, якія толькі што прыступілі да работы, пасля заканчэння адпаведных навучальных устаноў, да 5 гадоў работы ў школе, атрымоўваюць даплаты за добрыя веды па тэорыі і методыцы прадмета ў памеры ад 5 да 10% пры ўмове, калі сярэдні бал у дыпломе чатыры і вышэй.

Пасля 5 гадоў работы названыя даплаты за веды здымаюцца. Захоўваюцца толькі даплаты за стаж. Асобы, якія маюць 5-гадовы стаж работы, праз кожныя 5 гадоў праходзяць атэстацыю.

Хочацца асабліва адзначыць свае думкі наконт атэстацыі. Рада дырэктараў школ краіны выказалася за змяненне працэдуры атэстацыі. Дык вось, атэстацыю павінны праводзіць незалежныя інспекцыі па ўзгадненні з прафсаюзнымі і раённымі органамі кіравання адукацыяй, зыходзячы з аднаго галоўнага крытэрыя — канчатковага выніку работы настаўніка. (Пра незалежныя інспекцыі па адукацыі ў раёнах я пісаў ужо ў "НГ"№81 за 8 кастрычніка 1994 г.)

Настаўніку даецца права вызначыць 50% вучняў ад спісачнага саставу любога класа, з якім ён працуе 2 гады і болей. З гэтымі вучнямі інспектар у прысутнасці настаўніка і аднаго з адміністратараў школы праводзіць кантрольную работу, зрэз, тэсты, разлічаныя на сярэдняга вучня па праграме, па якой працаваў настаўнік з гэтым класам.

Па выніках кантролю, на аснове сярэдняга бала, атрыманага вучнямі, настаўніку прысвойваецца адзін з пяці разрадаў або класаў.

| Вынік навучання (сярэдні бал, атрыманы вучнямі) | Прысвоены настаўніку разрад або клас | Даплаты настаўнікам за разрад або клас |
|---|---|---|
| 0—2 | V | 0 |
| 2,1 —3 | IV | 5% |
| 3,1 — 4 | III | 10% |
| 4,1— 4,5 | II | 15% |
| 4,6 — 5 | I | 20% |

П.КАРПЕЦ,
спецыяліст-арганізатар Лунінецкага раёна.

УДАКЛАДНІМ ПАЗІЦЫІ

## Яшчэ раз пра джына, які трапіў на волю

"Джын, які трапіў на волю" — так называлася інтэрв'ю, змешчанае ў №67 "НГ" за 20 жніўня. У ім ішла гаворка пра новы факультэт прыкладной псіхалогіі, які адкрыўся ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце.

На жаль, у гэтым інтэрв'ю ёсць некаторыя недакладнасці, якія, на мой погляд, трэба паправіць.

Па-першае, мае словы, што "рамкі набору ў нас не такія жорсткія, мы можам іх рассунуць", у некаторых нашых абітурыентаў выклікалі ўражанне, што на факультэт будуць прымаць усіх, хто пажадае. Гэта, канешне, не так. Мелася на ўвазе іншае: паколькі факультэт працуе, як зараз кажуць, на камерцыйнай аснове, то, як і ўсякая камерцыйная ўстанова, ён зацікаўлены ў павелічэнні аб'ёму сваіх паслуг. Але такое рашэнне прымаецца не за адзін дзень і не на ўзроўні прыёмнай камісіі, бо тут яшчэ ёсць шмат пытанняў арганізацыйнага характару.

Па-другое, у той частцы інтэрв'ю артыкула, дзе гаварылася, што "псіхалагічны "бізнес" стаў легальным, што аб'явы аб прыёме на курсы экстрасенсаў і парапсіхолагаў можна ўбачыць амаль што на кожным слупе", мне па нейкім непаразуменні аўтарам інтэрв'ю прыпісаны такія словы: "На жаль, да іх жа цягнуцца і кароткатэрміновыя курсы практычнай псіхалогіі..."

Гэты момант даволі прынцыповы. Справа ў тым, што я сам ужо пяць гадоў удзельнічаю ў падрыхтоўцы псіхолагаў на такіх курсах і па многіх пытаннях не падзяляю адносін, якія існуюць да іх сярод акадэмічных псіхолагаў. Канешне, 5 гадоў значна лепш, чым 9 месяцаў. Але ж калі паглядзець колькасць гадзін па навучальных планах, то атрымаецца: на 5 гадоў па псіхалогіі адводзіцца да 1500 гадзін, на 9 месяцаў — 1200. Розніца, як бачым, не вельмі істотная.

Далей, на курсах чытаюцца галоўным чынам псіхалагічныя дысцыпліны. Студэнты ж, акрамя спецыяльных дысцыплін, вывучаюць шмат агульнаадукацыйных прадметаў. Напрыклад, знаёмячыся з навучальным планам аднаго з псіхалагічных факультэтаў, я заўважыў, што на I-м курсе сярод 14 навучальных дысцыплін плануецца толькі адна псіхалагічная. Псіхолагі і педагогі, якія сочаць за новымі тэндэнцыямі ў адукацыйных тэхналогіях, адразу зразумеюць, што канцэнтраванне, модульнае навучанне куды больш эфектыўнае, чым расцягнутае на некалькі гадоў.

Варта звярнуць увагу і на маральны аспект гэтай праблемы, калі прафесіянальныя псіхолагі культывуюць зняважлівыя адносіны да маладшых калег, якія пачынаюць свой нялёгкі шлях у галіне псіхалогіі. А як паказваюць назіранні, псіхолагі, падрыхтаваныя на курсах, працуюць часам не горш, а наадварот, лепш, чым тыя, хто атрымаў акадэмічную падрыхтоўку, бо слухачы курсаў адразу ж звязваюць новыя веды са сваім вопытам працы ў школе.

Курсы падрыхтоўкі псіхолагаў, канешне, маюць і свае недахопы. Але ж менавіта яны ў свой час стымулявалі разгортванне сістэмы падрыхтоўкі псіхолагаў у нашай краіне. Якраз пра гэта я і гаварыў у гутарцы з У.Трацціяковым.

Карыстаючыся момантам, хацелася б сказаць яшчэ некалькі слоў пра тое становішча, якое складваецца зараз пры падрыхтоўцы псіхолагаў для адукацыйных устаноў. Узнікае ўражанне, што ў апошні час адбываецца пэўнае занядбанне прыкладной, практычнай псіхалогіі. Калі ж ідзе гаворка пра падтрымку навукі, то заўсёды дабаўляецца, што гэта менавіта фундаментальная навука.

На першы погляд можа здацца, што гэта не вельмі сур'ёзная справа. Але ж у жыцці такая неасэнсаваная ўстаноўка выклікае шэраг канкрэтных негатыўных момантаў. Напрыклад, хто часцей за ўсё пакідае навуковыя і навучальныя ўстановы, уладкоўваецца ў камерцыйных структурах, выязджае за мяжу? Гэта якраз такія вучоныя-практыкі, якія не знаходзяць сабе месца ў акадэмічных інстытутах.

Другі момант, які тычыцца непасрэдна падрыхтоўкі псіхолагаў: мне не адзін раз даводзілася ўдзельнічаць у дыскусіях аб тым, якім павінен быць змест іх навучання. І тут зноў, раз за разам, прыходзіцца сутыкацца з усё той жа ўстаноўкай на фундаментальную, а інакш кажучы — на тэарэтычную падрыхтоўку. І нярэдка атрымліваюцца дзіўныя рэчы — выпускніку ВНУ прысвойваецца кваліфікацыя. "Практычны псіхолаг", а навучальны план на 90% складаюць тэарэтычныя дысцыпліны. Тут можа ўзнікнуць і такое пытанне: а ці так многа ў нашай дзяржаве грошай, каб у дыпломе пісаць адно, а вучыць іншаму?

Ці яшчэ адзін момант: што разумець пад практычнай працай і адпаведна пад практычнай падрыхтоўкай псіхолага? На сённяшні дзень часцей за ўсё сюды адносяць псіхалагічную дыягностыку, абследаванні дзяцей, складанне іх характарыстык і напісанне псіхалагічных рэкамендацый, парад настаўнікам і бацькам. Але ж гэта толькі пачатак, толькі вяршыня айсберга. Галоўная праца разгортваецца далей, пасля канстатавання тых ці іншых недахопаў у развіцці ці навучанні дзіцяці. І вось атрымліваецца, што такія сучасныя практычныя курсы, як развіццё памяці, індывідуальнае псіхалагічнае кансультаванне, трэнінг узаемін, вырашэнне канфліктаў, псіхааналіз, гештальт-тэрапія, псіхадрама і іншыя пераносяцца на апошні курс, а то і зусім не ўключаюцца ў навучальныя планы.

А практычнае навучанне мае ж і свае асаблівасці. Тут мала проста праслухаць лекцыі, а потым пераказаць іх змест на экзамене. Трэба прайсці сама меней тры ўзроўні падрыхтоўкі: спачатку паспрабаваць усё гэта на сабе, потым папрацаваць з больш вопытным калегам, а потым ужо прайсці самастойную стажыроўку пад яго назіраннем. І за адзін год гэта, пры ўсім жаданні, зрабіць немагчыма, бо проста не хопіць часу, не кажучы ўжо пра нейкі перыяд асэнсавання атрыманых ведаў.

Як бачым, праблем тут шмат. І хочацца спадзявацца, што новы факультэт прыкладной псіхалогіі стане ў нашай краіне цэнтрам псіхалагічнай падрыхтоўкі кадраў, месцам укаранення сучасных дасягненняў псіхалагічнай навукі ў рэчышча навучальнага працэсу, што, безумоўна, будзе спрыяць дасягненню мэты якаснай падрыхтоўкі практычных псіхолагаў для сістэмы адукацыі.

Барыс ЖЫЗНЕЎСКІ,
кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт кафедры ўзроставай і педагагічнай псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.

